 У нумары: АЙЧЫНА  Што новага ў літаратуры?  Наш зямляк — рэктарам універсітэта


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 39 (500) | ГОД X | 26 ВЕРАСНЯ 1965 года | ЦАНА 60 гр.


## 500

Дарагі Чытач! У рукі Твае аддаем пяцісоты нумар «Нівы». Хоць і значны юбілей, нумар не святочны: звычайны, будзённы. Гэта не поза. Набліжаецца наша дзесяцігоддзе, тады і адсвяткуем. Разам з Табою, вядома. А цяпер хочацца пагаварыць аб будзённых справах.

Вось Ты трымаеш гэты нумар (500!). Напэўна цешышся. Ты ж наш добры сябра. І мы ўдзячны Табе за гэта. Але ці таксама, як Ты, сябруюць з «Нівай» усе Твае суседзі? Калі не, дык чаму? Ці Ты ставіў такія пытанні? Ці стараўся на іх адказаць? І ці ведаеш, што ад Цябе вельмі многа залежыць, каб тыя, хто яшчэ не пасябраваў з намі, знайшлі ў нас, так як Ты, свайго сардэчнага прыяцеля.

Зараз адвернеш Ты старонку, потым другую, трэцюю, аж да восьмай. Бегла пазнаёмішся з загалоўкамі, фотаздымкамі, потым пачнеш чытаць дэталёва зацікавіўшыя Цябе рэчы. Але ці напішаш нам, што Цябе ў «Ніве» найбольш зацікавіла, што Ты любіш чытаць, а чаго не любіш? Твая думка нам вельмі дарагая.

Ведаем, што з асаблівай увагай сочыш за матэрыяламі з Тваёй вёскі, ці аколіцы. А ці падказаў Ты нам, аб чым мы яшчэ не пісалі, аб чым трэба было б абавязкова напісаць? Ты ў гэтым для нас незаступны дарадчык.

У кожным нумары сустракаеш Ты імёны, такіх, як і Ты, чытачоў, якія пішуць аб розных справах нашага грамадскага жыцця. Гэта наш авангард — нашы карэспандэнты. Ці не мог бы і Ты навялічыць іх рады?

Аб гэтых пытаннях падумай, дарагі Чытач, прачытаўшы гэты наш пяцісоты нумар. Ад Тваіх рашэнняў, між іншым, будзе залежыць і наша супольная радасць у час святкавання дзесятай гадавіны нашага нараджэння. Не сумняваемся, што прымеш правільнае рашэнне. Мы Табе верым.

РЭДАКЦЫЯ

## КЛІН ВЫБІВАЮЦЬ КЛІНАМ

У справаздачы ГРН у Дубічах Царкоўных напісана:

...«горкім з'яўляецца факт, што ў 1961 годзе ў выніку пратэсту гаспадароў вёскі Ялёнка, камісія ў складзе прадстаўнікоў Міністэрства сельскай гаспадаркі і Прэзідыума Ваяводскай рады нарадовай прызнала факт занадта высокай класіфікацыі земляў, унесла папраўкі, якія сельскагаспадарчы рэферат Прэзідыума Павятовай рады нарадовай у Гайнаўцы да лютага г.г. не патрапіў унесці ў рэгістрацыйныя дакументы, аж выпадкова знойдзена пастанову».

У справаздачы ГРН напісана далікатна.

Інакш кажучы, вёска Ялёнка чатыры гады плаціла напалавіну завысокія падаткі і завысокія даставы, штораз просячы аб ільготы. Сталася так таму, што якіясьці

## ДУБІЦКІЯ КЛІНЫ

САКРАТ ЯНОВІЧ

«ужэнднікі» ў сельскагаспадарчым рэферацe гультаілі, пазяхалі на крэслах, ды ўрэшце амаль што згубілі паперку з пастановай камісіі. На голас дубіцкай ГРН і вухам не вялі!

Кожную памылку дубіцкая зямля моцна адчувае. Тут сорак шэсць працэнтаў зямлі шостага класа, трыццаць працэнтаў пятага класа і ўсяго чатыры працэнты трэцяга. Зрэшты, відаць гэта па саламяных стрэхах, якіх тут больш, чым у другіх аколіцах Гайнаўшчыны.

Аж зачаста не лічацца ў Гайнаўцы з дубіцкім голасам. Павятовы камендант пажарнікаў Палчынскі лёгкаю рукой не даў Дубічам Царкоўным належную ім новую пажарную машыну, «заробленую» цяжкай працаю ў грамадскіх чынах у час будовы дасканалай рамізы, клуба і кіно. Машына дасталася соннай але слаўнай Белавежы.

У Гайнаўцы чулыя на славу. Да Палчынскага мне не было чаго ісці, ён шчаслівы, што прыдаў бляску Белавежы выбавіўшы яе ад старой машыны; не прызнаецца, што дубіцкія пажарнікі актыўнейшыя ад белавежскіх.

Затое старшыня павятовай рады Хілецкі адразу ахвотна і многа загаварыў аб Дубічах Царкоўных.

Сказаў:

— Там робяць вялікія справы.

### БУДУЮЦЬ ДАРОГІ

Многа будуюць. Дарога — не пажарная машына, не адбярэш. Дубіцкія людзі як бы ведалі аб гэтым, працуюць што сіл.

(Працяг на стар. 4)



Выстаўку адкрывае сакратар ВК ПАРП Вітальд Мікульскі (другі злева). Побач пасол Ян Рызнар (злева) і намеснік дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК ПАРП Юзэф Кавальскі.
Фота Ул. Паўлючук

## ГРАМАДА
### ў залах Музея рэвалюцыйнага руху

18 верасня г.г. у Музеі рэвалюцыйнага руху ў Беластоку адкрылася выстаўка п.з. «Беларуская сялянска - работніцкая Грамада». На ўрачыстасць адкрыцця прыбылі шматлікія прадстаўнікі палітычных і адміністрацыйных улад Беласточчыны на чале з сакратаром Ваяводскага камітэта Польскай аб'яднанай рабочай партыі Вітальдам Мікульскім. Шырока прадстаўлены былі таксама грамадскія і культурныя арганізацыі і ўстановы ваяводства і горада, сярод іх і члены Прэзідыума ГП БГКТ і актыў нашага таварыства. Мілымі гасцьмі была вялікая група былых капэзэтбоўцаў, якія цяпер жывуць у Варшаве. Тут з прыемнасцю адзначаем прысутнасць сакратара ГП ТППР Э. Арлоўскай, намесніка дырэктара Інстытута гісторыі партыі пры ЦК ПАРП Ю. Кавальскага і генерала С. Малько.

Можна смела сказаць, што рэдка якая падобнага роду ўрачыстасць у Беластоку мела так шырокае грамадскае прадстаўніцтва. Гэта найлепш сведчыць аб зацікаўленні выстаўкай. Але зачнем ад пачатку.

Выстаўку адкрыў сакратар ВК ПАРП Вітальд Мікульскі. Выступаючы перад удзельнікамі ўрачыстасці, ён, між іншым, сказаў: «Выстаўка гэта з'яўляецца важным звяном праграмы ўрачыстасцей 40-й гадавіны стварэння Грамады, з'яўляецца сведчаннем нашых адносін да месца і ролі, якія ў гісторыі польскага рэвалюцыйнага руху займае гэта арганізацыя».

Падкрэсліўшы пачэснае месца, якое займае БСР Грамада ў гісторыі рэвалюцыйнага руху, тав. Мікульскі адзначыў, што Грамада ад пачатку была арганізацыяй нізоў, якая аб'ядноўвала асноўныя масы беларускіх сялян. «Беларускія сяляне, — гаварыў далей сакратар, — лічылі Грамаду сваёй арганізацыяй. І была гэта іх арганізацыя, бо яны складалі яе ядро, была іх арганізацыяй, бо праграма Грамады выказвала імкненні працоўных мас». Характарызуючы асноўныя праграмныя лозунгі Грамады, тав. Мікульскі звярнуў асаблівую ўвагу на ідэйнае і палітычнае аблічча

(Працяг на стар. 2)



# Вожыкава сямейка

Збіраючы летам у лесе ягады, мы знайшлі вожыка. Звярок нерухома ляжаў на зялёнай купіне, якая зарасла цяністым папараднікам. Мы падумалі, што вожык нежывы. Торкнулі ў яго палкай, ён раптам як запыхкае: пых, пых, пых! Ды так злосна, аж падскоквае на месцы. Мы паткай скацілі вожыка з купіны. Глядзім, у зялёным імху, дзе ляжаў вожык, мяккае гняздзечка. А ў гняздзечку важаняткі ляжаць. Маленькія такія, па кулачку.

— Гэта маці з дзеткамі, — кажа Лена. — Не чапайце іх. А то яна плакаць будзе.

Але мы не вытрымалі і кранулі. Важаняткі былі яшчэ мяккія і зусім не калоліся. Нават не спрабавалі ў клубочак скручвацца, як гэта ўсе дарослыя вожыкі робяць. Відаць, яшчэ не навучыліся. Мы ўзялі іх у рукі. Звяркі даверліва тыкаліся сваімі халоднымі носікамі ў нашы далоні, спрабуючы вырвацца з іх.

Увесь гэты час, пакуль мы з важанятамі гулялі, маці-вожычыха, скруціўшыся ў тугі клубок, нерухома ляжала ля купіны з гняздом. Мы сабраліся былі важанят забраць у вёску. Але тут Лена пачала прасіць нас вярнуць дзяцей вожычысе. Пасля некаторага вагання мы ўсё ж паклалі важанят у іх мяккае гняздзечка і пайшлі далей ягады збіраць.

Ходзячы па лесе, нейкім чынам мы зноў трапілі ў балотца з вожыкавым гняздом, заблудзілі, відаць. У лесе такое часта здараецца. Глядзім — няма ні важанят у гняздзе, ні іх маці.

— Куды ж яны падзеліся? — здзівіліся мы.

А Лена і адказвае:

— Пайшлі ў лес сабе новую хатку шукаць. Думаеце, мала вожычыхамаці пахваляваласа за сваіх дзетак, калі вы іх у руках трымалі? Вось яна і павяла іх адсюль глыбей у лес, туды, дзе менш людзей ходзіць.

Дакарае нас так сяброўка, а мы ўжо і самі не рады таму, што зрабілі.

Сапраўды: як жа цяпер вожыкава сямейка без цёплага гняздзечка ў лесе жыць будзе?

РЫГОР ІГНАЦЕНКА










МІКОЛА ГАНЧАРОЎ

## ТЭЛЕВІЗАР

Тэлевізар
мы прынеслі.
І цяпер —
кіно ў кватэры.
Для суседзяў
ставім крэслы
Мама,
я
і цёця Вера.
Я пісаць,
лічыць умею,
Бо хаджу
у першы клас.
А вось як — не разумею —
Як ідзе
кіно да нас.





А. ПЫСІН

## КАРУСЕЛЬ

Карусель,
Карусель,
Хто баіцца — той кісель,
Той не лётчык, не марак,
Хоць на выгляд — здаравяк.

Карусель —
На дваццаць пар,
З намі кружыцца ўвесь парк.
Мчацца дрэвы і кусты,
Едуць кладкі і масты.
Мы разгон такі ўзялі —
Не відаць ажно зямлі.






## Рыбу ловяць... лямпачкі

Рыбу злавілі пры дапамозе... звычайнай лямпачкі... Так, так, не здзіўляйцеся! Вучоныя звярнулі ўвагу на тое, што некаторыя рыбы ідуць на святло. Рыбакі пачалі выкарыстоўваць гэтую цікавую біялагічную асаблівасць жыхароў мора.

Ноччу за борт судна апускаюць доўгую трубу ад насоса і лямпачку ў герметычным каптурку з дротам, абцягнутым гумай. Рыба, напр., шпрота, прыцягнутая святлом, уцягваецца ў трубу і разам з вадой падымаецца на палубу.

Яшчэ цікавей ловяць сайру. Уздоўж судна запальваюць каляровыя лямпачкі. Спачатку запальваюць сінія. Калі вакол іх збярэцца шмат рыбы, тады ўключаюць чырвоную лямпачку, а сінія выключаюць. Уся рыба хутка ідзе на чырвонае святло і трапляе ў раней падрыхтаваную сетку.



## Вораг ці сябар?




А ці ведаеце вы, дзеці, хто з гэтых звяркоў сябар чалавека, а хто вораг? Напішыце нам у рэдакцыю, як сябры памагаюць чалавеку і чым шкодзяць ворагі, якіх вы бачыце на малюнку.





Уважліва разгледзь малюнкі і падумай, з якога матэрыялу ты сам мог бы зрабіць такія лялькі. Можа маеш пластылін, можа любіш стругаць з дрэва або з пластмасы. На такія лялькі можа прыдацца нават старая зубная шчотка, каляровыя стужкі, кавалачкі розных матэрыялаў і шмат іншых непатрэбных рэчаў.

## ПАЗНАЁМІМСЯ

Прашу пазнаёміць мяне з сябрамі і сяброўкамі з СССР і іншых школ на Беласточчыне. Я вучаніца VI класа. Люблю чытаць «Ніву» і «Зорку». Збіраю маркі і карцінкі. Чытаю газеты. **Валя Васілюк, вёска Крывяцічы, пошта Орля, пав. Бельскі.**

*

Пазнаём мяне, «Зорка», з сябрамі і сяброўкамі з іншых школ. Вучуся я ў другім класе ў Ласінцы. **Аляксандр Банькоўскі, в. Навіны, пошта Ласінка, Гайнаўскі павет.**

## СЛАНЕЧНІК

Зялёны і танклявы,
У шапцы яркажоўтай,
Заняты важнай справай
Сланечнік каля плота.
Прыкмець,
Як ён паверне
Насустрач сонцу шыю,
Як ловіць кожным зернем
Праменні залатыя,
Як кожным валаконцам
Ён цягнецца да неба.
Здаецца, толькі сонца
Сланечніку і трэба.
Стаіць над морквай дробнай,
Высокі і калматы...
На сонца ён падобны
Мо', так,
Як я — на тату.

МІКОЛА АЛТУХОЎ



